# КРЫВІНКА

САКАВІК
№5 (123)
2013 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай”.
**Ул. Караткевіч.**



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БАРАЦЬБА З КАРУПЦЫЯЙ
# ЦІ ІМІТАЦЫЯ БАРАЦЬБЫ?

Ёсць інфармацыя, што за 2012-ы год на тэрыторыі Віцебскай вобласці раскрыта 333 злачынствы, якія звязаны з карупцыяй, на суму больш 14 мільярдаў рублёў. (Пад карупцыяй сёння разумеюць атрыманне ці дачу хабару або крадзеж шляхам злоўжывання службовым становішчам.) Такія злачынствы ёсць не толькі ў прамысловасці, будаўніцтве ці сельскай гаспадарцы. Цяпер крадуць і ў іншых, невытворчых галінах, такіх як ахова здароўя, абслугоўванне насельніцтва ці адукацыя.

Але калі ў Сенненскім і Лепельскіх раёнах – суседніх з намі – выяўлена адпаведна 19 і 10 падобных злачынстваў, то у Бешанковіцкім раёне іх раскрыта толькі два. Мабыць, людзі ў нашым раёне працуюць асаблівыя, высакамаральныя. Хаця Андрэй Шклярэўскі, наш раённы пракурор у сваім інтэрв'ю "Зары" з такім тлумачэннем яўна не згодны. Ён лічыць, што тут віноватыя недастаткова аператыўныя дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, у якіх не хапае ўмельства, спецыяльных ведаў і навыкаў, а таксама інфармацыі пра фактары, што ствараюць спрыяльную глебу для карупцыі.

Я ж лічу, што ў дадатак да вышэйпералічанага, у работнікаў міліцыі адбіваюць ахвоту выяўляць віноўнікаў падобных злачынстваў. Бо, як правіла, большасць такіх злачынстваў адбываецца па камандзе або з маўклівай згоды найвышэйшых начальнікаў, звышвопытных кіраўнікоў прадпрыемстваў ці арганізацый. Яны ўмеюць "правільна" спісваць матэрыяльныя каштоўнасці, якія знікаюць з аб'ектаў у патрэбных кірунках. На іхных дачах і шматлікіх "палацах" вельмі часта працуюць тыя, каму налічваецца зарплата, за работу нібыта на дзяржаўных аб'ектах. (Я сам неаднойчы бачыў падобнае.) І калі нейкі высакамаральны лейтэнант адшукае ў дзеяннях такога кіраўніка злачынны намер, то апошні скарыстаецца сваімі сувязямі ў высокіх колах, якіх такія звышвопытныя кіраўнікі маюць процьму. Маладога лейтэнанта выклічуць на гутарку да ягонага начальніка, які растлумачыць яму, дзе хаваюцца сапраўдныя карупцыянеры, з якімі яму і трэба змагацца. І буйную рыбу лейтэнант больш лавіць не будзе. Для імклівага кар'ернага росту хопіць яму і барацьбы з п'яніцамі і несунамі.

Цікава, ці згодны з маёй версіяй спадар пракурор?

**Г.Станкевіч.**

## *"КАЛІ СЭРЦА СЦІСКАЕЦЦА..."*

*Калі сэрца сціскаецца*
*Ад невылечнай журбы,*
*Калі неба ад ранку*
*Блакітных вачэй не расплюшчвае,*
*Завітаю ў кнігарню,*
*Каб кніжку ўспамінаў набыць,*
*Каб ілбом прытуліцца*
*Да мяккай матульчынай плюшаўкі.*

*У кнігарні пустэльна,*
*І сэрца няўпэўненасць ссе:*
*Прадавачкі глядзяць ва упор*
*Кабыліцамі сытымі.*
*Мне адкажа адна:*
*"Успаміны прададзены ўсе,*
*Засталіся адно дарагія,*
*Якіх не запытваюць."*

*Я куплю самы тоўсты*
*Ўжо цвіллю пацягнуты том,*
*Разгарну наўздагад,*
*Толькі выйду з кнігарні на ганак.*
*І раз'ясніцца неба*
*Захмараны шчыльна франтон,*
*І ўсміхнецца блакітам*
*Завеісты студзеньскі ранак.*



*Г.Станкевіч.*

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ЯК ПРЫМУСІЦЬ УЛАДУ ПРАЦАВАЦЬ

На днях адна мая знаёмая зламала руку. Яна пенсіянерка, пражывае ў горпасёлку, вядзе актыўны здаровы лад жыцця. Не курыць і не захапляецца алкаголем. П'е толькі крынічную ваду. Але апошняе падарожжа за гэтай вадой аказалася для яе нешчаслівым. На абледзянелых ступеньках, што вядуць да крыніцы, яна неасцярожна паслізнулася і цяпер ходзіць у гіпсе.

Калі яна мне пра гэта распавядала, мне міжволі ўспомніліся работнікі камунгаса, што дзень у дзень чысцяць тэрыторыю блізу дома старшыні райвыканкама. Там, здаецца, усё ўжо так вылізана, што больш некуды. Але варта працерушыцца свежаму сняжку, як яны мятуць там зноў. Пэўна, для іх гэта – аб'ект нумар адзін. А вось сцежкі–дарожкі, якімі ходзіць вялізная частка бешанкоўцаў, пераважна пенсіянераў і дзяцей, застаюцца недагледжанымі – нячышчанымі і слізкімі. Пасля кожнага новага снегападу людзі натаптваюць кіламетры новых сцяжынак, якія становяцца ўсё вышэй і небяспечней. Але ніхто і ніколі іх не чысціць і не пасыпае пяском. Логіка чыноўнікаў наступная: маўляў, трэба хадзіць не нейкімі сумнеўнымі сцежкамі нацянькі, а па "тратуарах". Але ж бальшыня ходнікаў узімку таксама небяспечная. Акрамая слізгоцця, на іх існуе рэальная небяспека трапіць пад колы машын.

Тыя ж сцежкі, якімі карыстаюцца, каб, да прыкладу, трапіць да раённай лякарні, значна карацейшыя і бяспечныя. Вядуць яны туды і з вуліцы імя Чарняхоўскага праз рог парку імя Ткачэнкі, і з Інтэрнацыянальнай паўз могілкі. Сцежкі тыя былі б наогул ідэальныя, каб у раёне галоўныя чыноўнікі аднойчы прайшліся імі і вызначыліся па іхняму догляду. А дагледзець іх проста, зрабіўшы невялікі касметычны рамонт. Дзесьці пакласці трубу, дзесьці падсыпаць, а пры нагодзе нават заасфальтаваць.

Але не будзем занадта аддавацца летуценням–фантазіям. Пакуль мы маем гэту прызначаную зверху ўладу, яна пальцам не пашавеліць, каб вырашыць праблемы простага чалавека, які змушаны хадзіць пехатой. Ад выбараў да выбараў чыноўнікі працуюць мінімальна, у ашчадным рэжыме. І толькі калі ўзнікае рэальная небяспека тую ўладу страціць, раптоўна пачынаецца іхняя кіпучая дзейнасць. Дзе, што і адкуль тады бярэцца на тыдзень–другі. А потым тая актыўнасць удначассе, як узнікла, так жа раптоўна прападае.

А мы верым іх перадвыбарным абяцанкам, галасуем за прадаўжэнне іхніх мандатаў, і ўсё жыццё ходзім нячышчанымі сцяжынкамі, ламаючы рукі–ногі.

**Л.Паўлава.**

## "КРЫВІНКА" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

ВЯСКОВЫЯ НАВІНЫ

## ХОЦЬ ТАК, ЧЫМ АНІЯК

Пасля снежнага бурану, што наведаў наш раён у пятніцу 15-га сакавіка, снегу намяло, здаецца, больш, чым выпала за ўсю зіму. Але гэта толькі здаецца. Бо насамрэч яго многа было толькі там, дзе ён затрымліваўся. Да прыкладу, на дарогах, дзе збоку ёсць перашкоды ў выглядзе кустоўя ці рэштак снегу, што застаўся тут ад папярэдніх расчыстак. Такія дарогі замяло літаральна па вушы. Падобная сітуацыя назіралася і раней пры моцных вятрах. А вось на трасах, чые узбочыны былі вольнымі ад кустоўя, снегу амаль няма.

Нашу вясковую вуліцу, якая вузкая, таксама скрозь перамяло. У нядзелю ўдзень па ёй праехаў калгасны трактар з лапатай. Ён прабіў вузкі тунэль і з'ехаў. Ні назаўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень аніхто пра вясковую вуліцу болей не клапаціўся. Тунэль, у якім не размінуцца нават два кані, не тое што легкавікі, цягнецца на паўтара кіламетры паўз вёску. Калі будзеш ехаць і кагосьці тут стрэнеш, то праблемы будуць вялікія.

Мая жонка пракаментавала прачыстку словамі: "Хоць так, чым аніяк". Я цалкам згодны, але ж у працвітаючай краіне хоць штосьці мусіла б працвітаць, акрамя п'янства і засілля чынавенцтва.

**У.Ліпскі.**

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## РАМОНТ ЦІ АДЧЭПКА?

Аб'ект "панская кухня" Двор–Нізгалаўскай панскай сядзібы ляжыць усяго ў паўкіламетры ад дарогі Бачэйкава – Вула, па якой я тройчы ў тыдзень езджу на работу. А таму было б вялізным грэхам не наведаць сядзібу, тым больш што раённы аддзел культуры штосьці даўнавата не турбаваў мяне сваімі справаздачнымі лістамі пра стан спраў на гэтым аб'екце.

Ужо здалёк над панскай кухняй можна было заўважаць новы шыферны дах, над узвядзеннем якога будаўнікі пашчыравалі ў студзені–лютым. Але пры бліжэйшым разглядзе заўважаеш, што той дах зроблены неахайна, нібыта ставілі яго не над аб'ектам культуры, а над калгасным кароўнікам. Ды й над кароўнікамі дахі ўзводзяцца з канькамі. Над імі не пакідаюць шчылін, праз якія могуць залезці не толькі каты, але і сам спадар мядзведзь. Незашытымі да верху засталіся і франтоны. Зіяе незашыты дошкамі праём вакна, на якое таксама не звернута ўвага і праз якое любы чалавек ці звер можа трапіць у сярэдзіну памяшкання. Незразумела, ці то будаўнікам бракавала дошак, ці то ў іхніх планах з'явіўся больш тэрміновы аб'ект, на які іх зняло начальства.

Наогул, да гэтага аб'екта культуры, як і да культуры цалкам у нашым раёне, адносіны, мякка кажучы, некультурныя. Дваццаць сем гадоў таму, калі я пачынаў сваю працоўную дзейнасць у калгасе імя Дзімітрава, гэты дом быў прыдатны да жылля. Тут, у гэтай панскай кухні, яшчэ жыла сям'я. Дом ацяпляўся і меў усё тое, што адрозніла жылую хату ад нежылой. За прамінулыя гады чыноўнікі ад культуры пальцам не пашавялілі, каб хаця б павесіць на будынак ахоўную шыльду, не гаворачы пра нейкі касметычны рамонт. Урэшце рэшт, мусіць, з–за няспынных "клопатаў" пра аб'ект культуры над кухняй абваліўся дах. Але дах разабралі і нічога не зрабілі, каб узвесці новы. І толькі пасля майго званка на наўпроставую лінію чыноўнікі крыху зашавяліліся, каб неяк засцерагчы свае пасады ад небяспекі.

Думаецца, што аніякія аб'екты культуры ім цалкам непатрэбныя. Яны толькі замінаюць чыноўнікам у іхняй напружанай "працы". Калі непатрэбным з'яўляецца галоўны аб'ект культуры – мова, то што ўжо казаць пра нейкія панскія кухні.

**Г.Станкевіч.**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Рэдакцыя «Крывінка» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***

***• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне правы і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***

***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

# НА НАДЗЕЙНЫМ ЗАМКУ

Праз тыдзень пасля славутага снегападу, звязанага з Хавэрам, я вырашыў паглядзець, як жывуць спартыўныя Бешанковічы ў выходны дзень. Бо халоднае вясновае надвор'е сёлета як ніколі спрыяе заняткамі зімовымі відамі спорту. Калі ўначы марозы стаяць даволі траскучыя, то ўдзень мароз у нейкіх пяць-сем градусаў не спужае сапраўдных аматараў зімовых забаў.

Але на падыходзе да цэнтральнага раённага стадыёна на ягоных варотах здалёк кінуўся ў вочы вялізны свірнавы замок. Я не даў веры сваім вачам, падыйшоў бліжэй і пакратаў яго, каб упэўніцца, што тое не фата маргана. Не, стадыён быў на надзейным замку. Нават улетку тут можна адшукаць шчыліны ў агароджы, праз якія гаспадарлівыя бешанкоўцы пранікаюць на футбольнае поле і проста на ім навязваюць сваіх козаў. Цяпер жа – я абыйшоў наўкола ўсю агароджаную тэрыторыю – на стадыён нават мыш не пралезе. Каб паглядзець, ці расчышчаная хакейная пляцоўка, мне прыйшлося крочыць па глыбокім снезе і ўзбірацца на вялізны камень. Толькі з яго я дэталёва разгледзеў, што на хакейнай каробцы пасля тыднёвай даўнасці снегападу ляжыць нечапаны снег. Каробку нават не спрабавалі чысціць. "А навошта?" – мусіць, падумалася раённым спартовым функцыянерам. "Хутка пацяплее і снег сыдзе сам сабой. Так было ўсе папярэднія гады."

Згодзен, так было ўсе папярэднія гады. Але ж сёлета, калі халоднае надвор'е затрымалася ў нас на цэлы месяц пазней звычайнага, калі можна атрымоўваць такую асалоду ад лыжных прагулак і хакейных баталій, наш адзіны стадыён у выходны дзень знаходзіцца пад свірнавым замкам.

Дарэчы, узімку праз голы парк гэты стадыён відаць з вокан хаты, дзе ўжо пяты ці шосты год пражывае чарговы старшыня Бешанковіцкага райвыканкама. І ў тым, што не толькі зімовы, а ўвесь спорт у Бешанковічах у такім занядбаным стане, лічу я, ягоная непасрэдная заслуга.

**М.Васільеў.**

СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

# "ДА БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ Ў МЯНЕ ЎСЯГО ТРЫ ПРЭТЭНЗІІ"

**Журналіст Глеб Лабадзенка ўзяў інтэрвью ў былога старшыні Белдзяржтэлекампаніі Генадзя Бураўкіна**

**- Генадзь Мікалаевіч, Вы глядзіце беларускую тэлевізію?**

- Гляджу вельмі мала – у асноўным, інфармацыйныя праграмы і спорт. Хвалююся за БАТЭ, Азаранку, Домрачаву, Герасіменю… Што датычыць іншых праграм нашага тэлебачання – то я толькі зрэдзьчасу ўключаю тэлевізар – калі ідзе нешта такое, што мяне цікавіць. Скажам, фестываль беларускай песні, свята беларускай культуры, юбілеі нашых майстроў мастацтва… Часамі гляджу некаторыя фільмы. Сучасную бяздарную пошлую папсу не вынешу, тупы жарабячы гумар – таксама. Маральная і палітычная пазіцыя многіх праграм тэлебачання мяне проста шакуе. Мне здаецца, раней былі хоць нейкія спробы аналізу – эканамічных спраў, палітычных з'яў… Цяпер жа – нічога няма. Такое ўражанне, што не хочуць, каб людзі задумваліся, прымалі для сябе нейкія рашэнні. Часам прыходзіць нават грэшная думка – ці не прыйшла пара збіраць "нюрнбергскі працэс" – і судзіць тэлебачанне?.. За тое, што разбэсціла грамадства; падтрымлівае самае горшае, што ёсць у людзях… А яшчэ я бачу ўнікальны непрафесіяналізм тэлебачання. Не відно асоб – а на экране мусяць быць цікавыя асобы, якіх хацелася б слухаць. Усе гэтыя каментатары і аглядальнікі накшталт Пракопава – гэта жах: людзі нахабныя, маладасведчаныя, злосныя, ваяўнічыя!..

**- Калі б заўтра Вам патэлефанавалі з БТ і сказалі, што робяць перадачу, скажам, пра беларускую літаратуру – і запрашаюць Вас паўдзельнічаць. Пайшлі б на БТ?**

- Не выключаю, што даў бы згоду. Праўда, пацікавіўся б, хто там будзе яшчэ ў гэтай перадачы ўдзельнічаць і з якой мэтаю яна робіцца. Але абавязкова скарыстаўся б трыбунай тэлебачання, каб выказацца пра сённяшнюю літаратуру.

**- Але, я так разумею, што такія запрашэнні нячаста здараюцца?**

- Такіх запрашэнняў проста няма. Апошні раз мяне запрашалі на тэлебачанне ў мінулым стагоддзі.

**- Выўзначальвалі тэлебачанне 12 гадоў. Наіўнае пытанне: бадай, і па падказкі ды парады сёння да Вас звяртаюцца нячаста?**

- А ім мае падказкі непатрэбныя. Таму што я не прымаю многае з таго, што яны робяць – і яны гэта ведаюць. Таму і не звяртаюцца. Калі ў мяне пытаюцца, у чым самыя вялікія мае прэтэнзіі да беларускага тэлебачання, я кажу, што ў мяне ўсяго тры прэтэнзіі. Гэтае тэлебачанне небеларускае. Гэтае тэлебачанне неінтэлектуальнае. І гэтае тэлебачанне непрафесійнае.

**- А за эталон Вы, відаць, ставіце тое, што было ў Ваш час? Тады Вам запярэчаць: дык сёння іншыя законы: камерцыя, рэклама, ратацыі…**

- Я за эталон ніколі не ставіў і не стаўлю тое, што было тады. За эталон я стаўлю высокія ўзоры мастацтва, бо лічу, што тэлебачанне мяжуе (ва ўсякім разе, павінна межаваць) з мастацтвам. А эталоны ў мастацтве – класіка. Акрамя таго, я цвёрда перакананы, што ўсе перадачы нашага тэлебачання павінны працаваць на беларускую ідэю, на нацыянальную ідэю.

**- Як Вы, як чалавек культуры, ацэньваеце сюжэты на культурніцкую тэматыку?**

- Даволі часта – невысока. На АНТ ёсць, напрыклад, малады журналіст Мацяс, які якраз спецыялізуецца "на культуры". І мяне раздражняе і нават злуе, калі чалавек прыходзіць да вядомага дзеяча літаратуры, які гаворыць з ім на выдатнай беларускай мове – а журналіст пастаянна гаворыць па-руску. Я лічу, што гэта не толькі непрыстойна ў адносінах да суразмоўцы. Гэта парушэнне прафесійных патрабаванняў беларускага тэлебачання. У нас дзве дзяржаўныя мовы – і калі ты прыйшоў працаваць на тэлебачанне, абавязаны свабодна валодаць абедзвюма. Калі чалавек гаворыць з табой па-беларуску – а ты не можаш падтрымаць гаворку на гэтай жа мове – ты павінен быць звольнены як прафесійна непрыгодны.

**- А Міхась Равуцкі на БТ?**

- Ён прафесійны чалавек, дастаткова адукаваны. Праўда, мне ў ім не хапае нейкай жывінкі. І не хапае сапраўды пявучай, мілагучнай роднай беларускай мовы.

"Большасць інфармацыйных праграм дзяржаўнага тэлебачання – для начальства"

**- З тае пары, калі Вы кіравалі тэлебачаннем, якія вартыя рэчы можна было б пераняць сённяшняй тэлевізіі?**

- Можна было б працягваць прадукаваць тэлевізійныя дакументальныя фільмы. Можна было б мець літаратурны тэатр, дзе выдатныя акцёры неслі б навінкі літаратуры да гледача. Некалі была ў нас праграма "Песню бярыце з сабой", дзе прапагандавалася беларуская песенная творчасць. У тых канцэртах прымалі ўдзел і славутыя спевакі з Расіі, Украіны, Эстоніі, Малдовы, іншых савецкіх рэспублік… Эдуард Хіль, Іосіф Кабзон, Марыя Пахоменка, Анатоль Макрэнка – спявалі па-беларуску! Альбо тыя ж выставы мастакоў, наш выдатны жывапіс. Людзі з глыбінкі Беларусі не могуць часта прыязджаць у Мінск на выставы. Тэлебачанне можа ўсё гэта паказваць, але не паказвае! Тэлебачанне ўвогуле згубіла функцыю навучання – вучыць бачыць карціны, вучыць разумець тэатр, вучыць чуць сапраўднае мастацкае слова. Гэта сёння чамусьці лічыцца непатрэбным.

**- Шмат гаворыцца, пра сённяшнюю прапаганду, якая б'е проста "ў лоб". Як гэта выглядала ў Ваш час?**

- Усяк бывала. Была прапаганда, і мнагавата. Бо і тагачаснае, і сённяшняе тэлебачанне – дзяржаўнае, яно павінна адпавядаць дзяржаўным інтарэсам. Праўда, мы стараліся даваць не адну толькі "генеральную лінію" – асабліва калі прыйшла славутая Перабудова. Мы ўжо смялей гаварылі пра складаныя рэчы, скажам, пра Курапаты… Я не магу сцвярджаць, што ўсё атрымлівалася. Былі і "лабавыя", і павучальныя перадачы. Але цяпер жа іншы час! Тады была цэнзура! А цяпер цэнзуры нібыта няма!

**- Ну як жа няма, калі ні Вас, ні Барадуліна не запросяць на БТ!?**

- Гэта не цэнзура, гэта палітыка. І праз гэта ідзе свядомае абядненне духоўнага жыцця. Уключыш тэлевізар – і такое адчуванне, што ў нас, апроч папсы, няма іншай музыкі. А Лявон Вольскі, а Зміцер Вайцюшкевіч, а "Ляпісы", а "Троіца"?.. Дзе яны? Чаму іх замоўчваюць, ігнаруюць? А гэта ж тое, што робіць гонар краіне.

**- Адказваючы пра беларускую тэлевізію, Вы чамусьці закранулі толькі дзяржаўную – а як жа Белсат?..**

- Белсат – гэта асобная гаворка. Белсат я гляджу! А адказваў я пра тое тэлебачанне, якое шырока паказваецца і прымаецца – як кажуць, для ўсіх і кожнага. На Белсаце ўсё лепш і лепш працуюць дыктары, усё лепш афармляюцца праграмы – там ужо выходзяць на сур'ёзны прфесійны, еўрапейскі ўзровень. Вельмі хораша там пачувае сябе дакументалістыка. Ёсць неблагія ток-шоў – "Форум", "Два на два"… Паступова набірае моцы інфармацыйная служба. Аднак Белсату вельмі цяжка працаваць – журналістаў не акрэдытоўваюць, не пушчаюць на прадпрыемствы, на важныя паседжанні. Але малады калектыў Белсата мне вельмі сімпатычны – я зычу ім добрай будучыні! І яшчэ хочацца, каб людзі маглі глядзець Белсат гэтак жа шырока і лёгка, як яны сёння могуць глядзець дзяржаўныя каналы.

**- Генадзь Мікалаевіч, а тое "шырокае" тэлебачанне – для каго яно, на Вашу думку?**

- Большасць інфармацыйных праграм дзяржаўнага тэлебачання – для начальства. Таму так многа зацягнутых рэпартажаў пра паездкі розных кіраўнікоў на прадпрыемствы, у калгасы, пра іх паседжанні, нарады. Тут тэлебачанне абслугоўвае бюракратычныя інтарэсы чыноўнікаў. Стараецца яно выканаць і яшчэ адну задачу розными канцэртамі і забаўляльнымі праграмамі – адцягнуць увагу людзей ад таго, што робіцца вакол іх. Уключыце тэлевізар – і калі вы не жывяцё тут, якое ў вас уяўленне пра жыццё беларускае? Усе пяюць, усе скачуць. Бясконца, без стомы. Ніякіх праблем няма, усё у нас выдатна. А рэальнае, сапраўднае жыццё зусім інакшае – няпростае, шматграннае, будзённае.

**Глеб Лабадзенка.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ПРАБЛЕМЫ ДОМА №3

Пры чарговай разносцы газет я сустрэўся з жыхарамі дома №3 па вуліцы Пушкіна. Прывычна забраўшы газеты яны ўжо развіталіся, калі раптоўна ўспомнілі пра свае даўнія болькі. "Можа вы нам дапаможаце,"– у галасах гучала надзея. Я паабяцаў напісаць пра праблемы ў чарговым нумары "Крывінкі".

Першая праблема заключаецца ў тым, што веснавыя воды, што ўтвараюцца ад талых снягоў, цякуць проста да пад'езду дома. На ганак тады, каб фарсіраваць водную перашкоду, без гумовікаў не выходзь. А вады вельмі шмат, бо дом №3 ляжыць у нізіне, і да яго сцякае ўся вада з вуліц Чарняхоўскага і Мендзялеева, што ляжаць вышэй. Аўтааматары не раз, пэўна, бачылі імклівы паток вады, што плыве па асфальту праз вуліцу Чарняхоўскага заднекуль з–пад вуліцы Мендзялеева. Потым тая вада цячэ паўз дамы №5 і №7 і ўпадае ў ручэй Безназоўны. Раней камунальнікі рабілі з асфальту розныя патаўшчэнні, каб накіраваць павадкавую ваду на іншы бок дамоў. Але яны даўно са сваёй функцыяй не спраўляюцца, і вада цячэ проста да пад'езду. Ці не пара вырашыць праблему кардынальна і пусціць тую ваду пад зямлёй? Сродкі на тое можна знайсці, калі не ў бюджэце, то прадаўцы на аўкцыёне адзін з начальніцкіх легкавікоў, якіх у нашым райвыканкаме цяпер залішне.

Другая праблема не такая складаная, але жтаксама мае быць вырашанай. У адным з пад'ездаў сходы ў падвальнае памяшканне вельмі небяспечныя. Кожная жалезабетонная ступенька трымаецца тут толькі на дроце. Усе яны калываюцца і ў любы момант могуць выслізнуць з–пад нагі. Скажаце, што гэта дробязь? Магчыма, для маладых і дробязь. А як быць людзям пажылога веку, якіх з кожным годам у доме болей?

На маё запытанне, хто ў іх з'яўляецца дэпутатам, людзі безнадзейна махнулі рукой. Маўляў, на гэту тэму гаварыць не будзем. Не будзем дык не будзем. Я ж толькі хачу прыгадаць, што ў 2010-м годзе сам балатаваўся ў раённы савет менавіта па Чарняхоўскай акрузе, куды ўваходзіць і вуліца Пушкіна. І тады чыноўнікамі з раённай выбарчай камісіі супраць мяне была аб'яўлена сапраўдная вайна, якая ўключала забарону майго выступу на радыё і суд над "Крывінкай". Падумайце, хто ў выніку выйграў.

**Г.Станкевіч.**

СТЫЛЬ РАБОТЫ

# АДЧАПІЛІСЯ

Неяк мінулагодняй восенню я патэлефанаваў на наўпроставую лінію, дзе паставіў пытанне пра адсутнасць блізу калгаснага рынка пешаходных "зебраў". Тады першы намеснік старшыні райвыканкама С. Акуневіч, які вёў "лінію", аддаў загад камунальнікам, і праз пару тыдняў свежая "зебра" пераходаў радавала вока.

Было тое напярэдадні зімы. З таго часу прайшло не больш за чатыры месяцы. Цяпер, калі веснавое сонейка пачысціла асфальт ад снегу, усе ўбачылі, што ад той разметкі не засталося аніякага следу. Яе нібыта карова языком злізала. Вось у сутнасці і ўся справа.

Але ў мяне ўзнікла як мінімум два пытанні. Першае пытанне да камунальнікаў: дзе знайсці рэцэпт вось такой лёгказмыўнай фарбы, што яны прымяняюць на праезджай частцы вуліц. Вельмі добрая фарба. Напэўна, танная. І, галоўнае, што яна дае магчымасць працаўнікам зарабіць. Бо праз нейкіх пару месяцаў усё пафарбаванае ёй прыходзіцца перафарбоўваць. З такой фарбай нам ніякое беспрацоўе не страшнае.

Другое пытанне да райвыканкамаўскага начальства. Шаноўныя, скажыце калі ласка, а без наўпроставай лініі вам не кідаюцца ў вочы элементарныя пытанні, якія трэба тэрмінова вырашаць? Хаця б з гэтыя "зебры". Ну, крый Божа, здарыцца на нейкім скрыжаванні, дзе бракуе разметкі, няшчасце, некаму прыйдзецца адказваць пасадай. А мо і не адной. Няўжо для вырашэння такіх "складаных" пытанняў трэба правядзенне наўпроставых ліній, шматгадовая перапіска і т.п. Няўжо Вы не адчуваеце, што такімі паводзінамі Вы дыскрымінуеце сябе ў вачах бешанкоўцаў? Ці гэта Вас ужо сапраўды не хвалюе?

**Г.Станкевіч.**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЭНКА Ў ЭМІРАТАХ ТРОХІ АДПАЧЫВАЕ?

**Яшчэ 14 сакавіка Аляксандр Лукашэнка выправіўся на перамовы з Уладзімірам Пуцным у Пецярбург. Ад таго часу, па ўсёй імавернасці, яго яшчэ не было ў Беларусі.**

Прычым пасля па ўсіх мерках зацягнутых візітаў у Сінгапур і Інданэзію адбыўся нечаканы пералёт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты — папулярны зімовы турыстычны маршрут. Па стане на 26 сакавіка кіраўнік Беларусі заставаўся недзе на берагах Персідскай затокі.

На тое, што на дадзеным кірунку дзяржаўны інтэрас можа спалучацца з адпачынкам, сведчыць хоць бы і той факт, што Аляксандра Лукашэнку дагэтуль не прыняў кіраўнік Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, прэзідэнт Халіфа ан-Нахаян. Сустрэў еўрапейскага госця толькі міністр унутраных спраў у рангу віцэ-прэм'ера, а таксама спадчынны прынц Мухамедон бэн Заід аль-Нахаян.

«Такое ўражанне, што ў Эміратах Аляксандр Лукашэнка праездам дахаты, — сказаў радыё «Свабода» палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — І не болей за тое. З Лукашэнкам яшчэ ж 80 чалавек разам. І гэта сведчыць пра тое, што Беларусьсю можна кіраваць дыстанцыйна. І, акрамя снежнай буры, у краіне нічога не здарылася», — іранізуе сп. Якаўлеўскі.

Натуральнай задачай азіяцкага турнэ бачыцца не толькі продаж беларускай прадукцыі — прычым, як паказвае прыклад М'янмы, вынік часта неадпаведны пакладзеным высілкам. Галоўнай задачай мог быць пошук інвестараў, гатовых купіць акцыі «Беларуськалія», МТС ці чагосьці іншага, прыдатнага для продажу на ўмовах, калі краіне трэба знайсці дадатковыя сродкі для абслугоўвання замежнай запазычанасці. У 2013 годзе сумы выплат па замежным доўгу рэкордныя.

Беларускаму грамадству застаецца развесці рукамі і запытацца, чаму працоўны графік галоўнага чыноўніка краіны застаецца напаўпразрысты.

**Мікола Бугай**
**«Наша Ніва»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ ПАДМАНУЦЦА ПАСЛЯ ЛУКАШЭНКІ

**Выбары без Лукашэнкі з'яўляюцца абавязковай, але недастатковай умовай дэмакратызацыі ў Беларусі, мяркуе лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч.**

25 сакавіка ў Мінску на канферэнцыі "Ідэалы БНР у цяперашні час" Мілінкевіч зазначыў, што апазіцыя "часта канцэнтруецца на рэжыме Лукашэнкі, але рэдка кажа, што будзе пасля яго". "Першыя незалежныя выбары пасля Лукашэнкі могуць канчаткова вырашыць лёс Беларусі. Але думаць, што пасля іх абавязкова ў краіне будзе дэмакратыя, не варта", — сказаў ён.

На думку палітыка, рэйтынг апазіцыі складае 20-30%. "Пасля сыходу з улады Лукашэнкі грамадства будзе расколата. Яно можа паверыць не толькі дэмакратычнаму праеўрапейскаму кандыдату ў прэзідэнты, але і прарасійскаму, які будзе абяцаць танны газ і рост зарплат. На фоне крызісу людзі будуць у першую чаргу думаць пра свае кішэні", — сказаў ён.

Лідар Руху "За Свабоду" мяркуе, што апазіцыі неабходна ясна ўсведамляць сваю адказнасць на выбарах, таму што "падзеі будуць развівацца дастаткова хутка".

Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў са шкадаваннем зазначыў, што беларускае грамадства "ўспрымае апазіцыю толькі ў тым плане, што яна супраць Лукашэнкі". "Апазіцыя не асацыюецца з тым, за што яна выступае. Наша памылка заключаецца ў тым, што мы не можам данесці сваю пазіцыю да насельніцтва ў той частцы, за што выступаем", — заявіў ён.

**БелаПАН**

ЗАМЕЖНЫЯ ПАЕЗДКІ

# ЧАКАЕМ МЬЯНСКІ ВАРЫЯНТ?

**Беларусь прадала ў М'янму 1000 фламастэраў, 4 скрыні гарэлкі і 6 трактароў. І гэта пасля візіту беларускай дэлегацыі, які «перасягнуў усе чаканні».**

Афіцыйныя СМІ падлічылі эканамічны эфект ад сустрэчы кіраўніцтва Беларусі і Інданезіі - 400 мільёнаў даляраў. Амаль тое ж самае казалі пасля паездкі прэм'ера Міхаіла Мясніковіча ў М'янму:

"Падпісаны шэраг міжнародных і міжурадавых пагадненняў. Заключаны новыя кантракты на пастаўку тавараў на агульную суму больш за 200 мільёнаў даляраў. Сярод галоўных кірункаў - пастаўка калійных угнаенняў, аўтатэхнікі, шын, камплектуючых ..."

Мінсельгасхарч распавёў Еўрарадыё пасля гэтага візіту, што жыхары М'янмы пыталіся, што такое хлеб і ці можна яго есці. Што ж, пыталіся пра хлеб - мы паставілі ім хлеб. У 2012 годзе М'янма купіла ў нас хлеба на 100 даляраў.

Што яшчэ мы прадаем у гэтую краіну? Адказ знаходзім на сайце Белстата ў справаздачы па экспарту за 2012 год.

На 1000 долараў мы прадалі туды рознага шакаладу, яшчэ печыва на 100 даляраў, на 200 даляраў гарэлкі - гэта 3-4 скрыні, і на такую ж суму іншых моцных напояў. А таксама 3 валізкі - можа, іх выкарыстоўвалі для перавозкі?

На 1200 долараў прадалі друкаванай прадукцыі, 400 каляндарыкаў, скуранога абутку - на 4200 даляраў, яшчэ тысячу фламастэраў і столькі ж шарыкавых ручак.

Колькі ж прадалі аўтатэхнікі? 6 трактароў за 56 тысяч даляраў. А шын і камплектуючых на 3 тысячы.

Усяго прадукцыі ў Белстата налічылі на 100 тысяч даляраў.

**Віталь Ругайн**
**Еврорадио**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ААН ПАДТРЫМАЛА БЯЛЯЦКАГА

**У сёньняшняй рэзалюцыі Рада ў правах чалавека ААН асудзіла практыку крымінальнага пераследу праваабаронцаў з-за крыніц паходжаньня іх фінансаваньня.**

«Гэтамоцны сыгнал падтрымкі ад ААН праваабаронцам ва ўсім сьвеце, якім не дазваляюць атрымліваць фінансаваньне, якіх пазбаўляюць легітымнасьці і супраць якіх узбуджаюць крымінальныя справы за іх праваабарончую дзейнасьць» – пракамэнтавала рэзалюцыю Сугайр Бэльхасэн, старшыня Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека.

У прэс-рэлізе з нагоды гэтай рэзалюцыі міжнародныя праваабаронцы падкрэсьліваюць, што яна мае непасрэднае дачыненьне да справы Алеся Бяляцкага, якога, паводле заключэньня Працоўнай групы ААН у справе неабгрунтаваных затрыманьняў, асудзілі ў Беларусі ў парушэньне міжнародных абавязаньняў краіны ня ўмешвaецца ў фінансаваньне дзейнасьці недзяржаўных праваабарончых арганізацый.

Рэзалюцыю прапанавала Нарвэгія, да якой далучыліся 62 іншыя краіны. Рэзалюцыя была прынятая шляхам кансэнсусу.

**Радыё Свабода**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ЗАКЛІК ДА САНКЦЫЯЎ СУПРАЦЬ «БЕЛАРУСЬКАЛІЮ»

**Кіраўнік праваабарончай арганізацыі Freedom House заклікаў да санкцыяў у адносінах да «Беларуськалію» і іншых беларускіх канцэрнаў, каб прымусіць Менск вызваліць палітвязьняў.**

Заява прагучала на сэмінары «Амэрыкана-беларускія адносіны: правы чалавека і дыпляматыя», які прайшоў у Джорджтаўнскім унівэрсытэцеў Вашынгтоне 25 сакавіка.

Дэйвід Крэймэр заявіў, што рэжым Лукашэнкі працягвае гандляваць зброяй з краінамі-ізгоямі і парушаць фундамэнтальныя прававыя прынцыпы дэмакратычнай дзяржавы, аднак у арсэнале ЗША і Эўразьвязу яшчэ ёсьць нявыкарыстаныя мэтады ціску на беларускія ўлады дзеля таго, каб тыя выпусьцілі зь беларускіх турмаў 11 палітычных зьняволеных і правялі ў краіне дэмакратычныя пераўтварэньні.

Адной з такіх мер узьдзеяньня, паводле кіраўніка Freedom House, можа стаць накладаньне эканамічных санкцыяў на буйныя беларускія канцэрны, у прыватнасьці, на «Беларуськалій».

«Бясспрэчна, прадпрыемства „Беларуськалій“ — адно зь іх. Тым ня менш Эўрапейскі Зьвяз таксама павінен перагледзець свае гандлёвыя адносіны зь Беларусьсю ў цэлым, таму што павелічэньне аб'ёму гандлю падрывае эфэкт санкцыяў, уведзеных самім жа ЭЗ. Эўразьвяз зрабіў выдатную працу, што тычыцца санкцыяў, аднак гандаль зь Беларусьсю, гэта значыць — з Лукашэнкам, адбіваецца на эфэктыўнасьці зробленых захадаў».

На думку Крэймэра, Лукашэнка становіць пагрозу ня толькі дэмакратычнаму разьвіцьцю сваёй уласнай краіны, але і міжнароднай супольнасьці, бо ягоны рэжым працягвае пастаўляць зброю ў недэмакратычныя дзяржавы:

«Лукашэнка прадае зброю рэжымам-ізгоям. Існуюць асьцярогі адносна нарошчваньня Беларусьсю збройных арсэналаў, нягледзячы на тое, што краіна адмовілася ад сваіх запасаў ядзернай зброі пасьля распаду Савецкага Саюзу. Мне здаецца, мы павінны быць занепакоеныя адносна таго, што мадэль Беларусі пад кіраўніцтвам Лукашэнкі можа быць узятая за прыклад у іншых краінах. Гэта значыць, што яго рэжым пагражае ня толькі тым, хто жыве ўнутры краіны, але і за яе межамі».

Між тым дырэктар Эўрапейскага аддзелу пры Бюро па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Дзяржддэпартамэнту ЗША Майкл Уехара, які таксама прысутнічаў на мерапрыемстве, заявіў «Голасу Амэрыкі», што ў сувязі з сытуацыяй, якая склалася, урад ЗША паставіў перад рэжымам Лукашэнкі шэраг простых умоў: «У адносінах зь Беларусьсю абставіны склаліся так, што рэпутацыя беларускіх уладаў настолькі дрэнная, што мы вылучылі шэраг умоў, згодна зь якімі Беларусь павінна пачаць адпавядаць некаторым патрабаваньням, перш чым зь ёй будзе ўсталяваны дыялёг. Беларускія ўлады ведаюць пра тое, чаго мы ад іх чакаем, ведаюць нашы ўмовы. Як толькі яны будуць выкананыя, мы зноў зможам пачаць нармальны дыялёг. Беларусь — адзіная краіна, у якой з-за патрабаваньняў мясцовых уладаў мы былі вымушаныя зьнізіць колькасьць супрацоўнікаў нашай амбасады. У нас нават няма амбасадара ў гэтай краіне, а мець нармальны дыялёг пры адсутнасьці амбасадара адной з краін вельмі складана».

Уехара таксама заўважыў, што з прыходам Джона Кэры на пасаду дзяржсакратара палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі ня зьменіцца:

«Злучаныя Штаты пасьлядоўна заклікалі ўрад Беларусі правесьці ў краіне зьмены ў галіне правоў чалавека, пашырыць палітычную прастору, а таксама ўзмацніць сыстэму стрыманьняў і процівагаў ва ўладзе. З прыбыцьцём Джона Кэры ў Дзяржддэпартамэнт палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі застанецца бязь зьменаў».

**Радыё Свабода**

НАША СПАДЧЫНА

# ДЗЕЯЧЫ БНР БЫЛІ ДЭМАКРАТЫ

**Напярэдадні Дня Волі гісторык і даследчык Беларускай Народнай Рэспублікі Анатоль Сідарэвіч распавеў Еўрарадыё пра тое, хто стварыў беларускую дыпламатыю, чаму ў Маскве дзівіліся наяўнасці белага хлеба ў сталіцы БНР і як свята 25 сакавіка адзначалі нават камуністы.**

**- Гэта праўда, што паўнамоцтвы ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі прызнавалі нават бальшавікі?**

- Так, бальшавікі лічылі яе спраўднай дзяржавай. У рашэнні свайго цэнтральнага камітэта яны нeяк пісалі, што "трэба дамагчыся, каб паўнамоцтвы ўрада БНР былі перададзеныя ўраду БССР". Значыць бальшавікі прызнавалі за ўрадам БНР паўнамоцтвы.

- На якія структуры ў рэгіёнах Беларусі абапіралася БНР?

- БНР абапіралася на беларускія рады, якія працавалі ў Магілёве, Гродне, Ваўкавыску, іншых гарадах. Вельмі знакамітая Слуцкая рада, якая ў 1920-м падняла антыбальшавіцкае паўстанне. Гэта былі сялянскія і работніцкія рады. А вось у Койданаве рада нават абвесціла незалежную рэспубліку.

**- Цяпер можна пачуць, калі беларускія чыноўнікі ці нават і афіцыйныя даследчыкі кажуць, што БНР не дамаглася ніякіх вынікаў. Якія ж сапраўды былі дасягненні органаў улады БНР?**

- Адно з іх — БНР стварыла беларускую дыпламатыю! (Анатоль Сідарэвіч паказвае кнігу, што ляжыць на ягоным стале — "Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў. 1914 — 1991 год".)

- Выйшаў першы том пад рэдакцыяй міністра замежных спраў Сяргея Мартынава. І вось у гэтым томе змешчаныя дакументы БНР.

Таксама БНР стварыла беларускае казначэйства, беларускую гандлёвую палату, якая паспяхова гандлявала ў 1918-м годзе з Украінай.

-Калісьцы прыйшлі бальшавікі, па Маскве разнесліся чуткі, што ў Мінску ёсць белы хлеб! Але прайшлі 2 тыдні пасля прыходу бальшавікоў і белы хлеб знік, а за ім пачаў знікаць і чорны…

**- Спадар Анатоль, а як людзі, жыхары Беларусі адносіліся да БНР?**

- Вось я маю перад сабой два тамы зборніка дакументаў "Архівы БНР". Паглядзіце колькі тут лістоў ад людзей да ўрада БНР. Людзі звярталіся ў розных справах і атрымлівалі дапамогу. Вось беларусы з Моўчадзі (гэта каля Баранавічаў) просяць кіраўніцтва БНР прыслаць ім настаўніка, які б выкладаў у школе беларускую і нямецкую мовы, ды абяцаюць плаціць яму заробак са сваіх грошай.

Паводле слоў Анатоля Сідарэвіча, у БНР было роўнае стаўленне да нацыянальных меншасцяў. У 2-й устаўной грамаце Рады БНР была абвешчаная роўнасць моваў народаў БНР, а ва ўрад былі ўведзеныя прадстаўнікі яўрэяў, расіян, палякаў.

**- А ці ведалі пра Беларускую Народную Рэспубліку ў свеце?**

- Прэм'ера БНР Антона Луцкевіча прымаў прэзідэнт Чэхіі Тамаш Масарык, тройчы прымаў начальнік Польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі. БНР прызналі Фінляндыя і Эстонія. Наша вайскова-дыпламатычная місія дзейнічала ў Рызе. Была падпісана дамова аб ўзаемным прызнанні з Літвой. Ураду БНР даваў дзяржаўныя пазыкі ўрад Украіны. Консул БНР Алесь Бурбіс прадстаўляў, дарэчы, абсалютна легальна, інтарэсы беларускай дзяржавы ў Маскве. БНР не толькі ведалі, але і рэагавалі!

**- Можна нярэдка пачуць, што, каб не было БНР, не было б БССР…**

- Нават камісар Рэйнгальд, сябра першага ўрада БССР, казаў, што "калі б не было беларускай рады (гэта значыць рады БНР), то не было б БССР".

**- Але савецкая традыцыя шальмавання ўсяго, што звязана з першай спробай здабыцця беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі, жыве і сёння, ужо ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь?**

- Бальшавізм характэрызуе непрымірымасць да іншадумцаў, да іншых класаў, да іншых рэлігій і ідэалогій. Да гэтага часу людзі не могуць пазбыцца гэтага. Думаць не вузка-групавымі, вузка-сацыяльнымі, а думаць нацыянальнымі інтарэсамі людзі не умеюць. І не хочуць! Яны наўмысна дзеляць грамадства на "сваіх" і "чужых".

Цяперашнія ўлады не могуць маўчаць пра 25 сакавіка, але і адкрыта не кажуць, і не прызнаюць. Анатоль Сідарэвіч нагадвае, што дагэтуль у Мінску няма вуліцы першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Ўсевалада Ігнатоўскага. Няма вуліцы, якая б насіла імя людзей, што сталіся бацькамі беларускай дзяржаўнасці — братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Мала таго, на тым месцы дзе калісьці стаяў дом Луцкевічаў у сталічным Купалаўскім парку выращана пабудаваць… рэстаран.

( у скарачэнні)

**"Еўрапейскае радыё"**

АСАДЗІ НАЗАД!

# КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ СУПРАЦЬ ARCHE» НЕ БУДЗЕ

**У завядзенні крымінальнай справы па выніках праверкі ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак“» адмоўлена.**

Такую інфармацыю паведаміў 22 сакавіка бухгалтару ўстановы Алене Казловай адвакат, які прадстаўляе інтарэсы рэдакцыі.

Супрацоўнік Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў па Мінску і Мінскай вобласці Камітэта дзяржкантролю, адказны за праверку дзейнасці ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак“», паведаміў, што не ўпаўнаважаны выказвацца на гэтую тэму. У прэс-цэнтры КДК сказалі, што пакуль не валодаюць інфармацыяй на гэты конт.

Калі інфармацыя адпавядае рэчаіснасці, то рахунак установы, які быў заблакаваны з 4 кастрычніка мінулага года, павінен быць разблакаваны.

Нагадаем, што праблемы ў часопіса пачаліся 14 верасня 2012 года з затрымання былога галоўнага рэдактара «Arche» Валера Булгакава.

Супрацоўнікі міліцыі і падатковай інспекцыі затрымалі яго ў Гродне на прэзентацыі кнігі Я. Шумскага «Саветызацыя Заходняй Беларусі» і абвінавацілі ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

21 верасня супрацоўнікі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў (УДФР) прыйшлі ў друкарню, дзе выдаваўся часопіс, з праверкай. 24–28 верасня з друкарні былі забраныя ўсе дакументы за апошнія два гады дзейнасці часопіса. 2 кастрычніка было арыштавана больш за 5 тысяч асобнікаў кніг з асабістай калекцыі Булгакава.

4 кастрычніка ва УДФР быў выкліканы заснавальнік часопіса «Arche» Андрэй Дынько. Пасля гэтага было прынята рашэнне вызваліць Булгакава ад пасады галоўнага рэдактара «Arche», каб выратаваць выданне. У межах праверкі дзейнасці рэдакцыі Упраўленне ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску вынесла прадпісанне прыпыніць аперацыі па рахунках «Arche-Пачатак», — нагадвае ГА «БАЖ».

Хадайніцтва ГА «БАЖ» аб разблакаванні рахунку рэдакцыі часопіса Дэпартамент фінансавых расследаванняў адхіліў, спасылаўшыся на непрадастаўленне шэрагу патрэбных дакументаў. Прадстаўнікі рэдакцыі, са свайго боку, называюць гэтыя прэтэнзіі беспадстаўнымі.

18 кастрычніка Валер Булгакаў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць быў аштрафаваны на 500 тысяч рублёў. У пачатку лістапада Булгакаў пакінуў Беларусь, асцерагаючыся крымінальнага пераследу.

**baj.by**

СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК

# ЯКАЯ ЯНА - БЕЛАРУСКАЯ «ТАННАСЦЬ»?

**«Мы сёння накармілі свой народ, і кошты ў нас значна ніжэй, чым у Расіі і Украіне, у Еўрасаюза, навакольных дзяржаў - значна ніжэй», - заявіў кіраўнік Беларусі ў інтэрв'ю Russia Today. Эканаміст Леанід Заіка, у сваю чаргу, тлумачыць: якая яна - беларуская «таннасць».**

Зусім нядаўна Галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы паведаміла, што толькі на прадукты харчавання мінскія сем'і марнуюць 42,4% свайго даходу - амаль палову сямейнага бюджэту.

Цяпер параўнаем менскія і еўрапейскія кошты - рэпартажы на гэтую тэму з'яўляюцца ў беларускіх СМІ ў апошні час рэгулярна.

Літва. Кілаграм свініны ў Вільні, у пераліку на айчынную валюту, каштуе прыкладна 40.000 беларускіх рублёў, у той час як у Менску цана складае 65.800 рублёў. Кілаграм памідораў у Вільні каштуе прыблізна 23.000. У беларускай сталіцы за кіло таматаў прыйдзецца заплаціць прыкладна 46.000, піша Onliner.by.

Кіло цвёрдага літоўскага сыру стаіць у Вільні 63.300, а ў Мінску за гэты ж вага трэба раскашэліцца на 79.000. Нават бульба ў Вільні і тая танней: кілаграм каштуе 2.600 рублёў (на мінскай Камароўцы яе прадаюць за 3.000).

Польшча. Што тычыцца коштаў на прадукты харчавання ў польскім Беластоку і Мінску, то і тут параўнанне не на карысць беларускай сталіцы. Кілаграм свініны ў Польшчы каштуе каля 40 тысяч у пераліку на беларускія рублі (мінская кошт указана вышэй). 200 грам молатай кавы - каля 30.000 (супраць ўпакоўкі вагой у 250 грамаў, якая ў Мінску абыдзецца ў 120.000), адзначае TUT.BY.

... Параўнальны шэраг можна працягваць, і гэта толькі прывядзе да высновы аб тым, што пры беларускіх заробках, якія значна ніжэй еўрапейскіх, нашы суайчыннікі плацяць за некаторыя асноўныя прадукты ў разы больш, чым еўрапейцы.

«Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву»

- Гэта нават не папулізм - гэта спроба супакоіць насельніцтва, якое і так усё бачыць і разумее, - сказаў у экспрэс-каментары для «Салідарнасці» эканаміст Леанід Заіка. - Наколькі яна ўдалая? Каб зразумець, наколькі ў Беларусі «танныя» прадукты харчавання, я бы прапанаваў Аляксандру Рыгоравічу куды-небудзь са мной з'ездзіць. Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву. Мы паедзем у Калінінград, дзе кілаграм свініны ў пераліку на беларускія рублі каштуе 4 даляра. А што ў Мінску? Правільна, кіло гэтай самай свініны каштуе 8-10 даляраў.

Не буду вас стамляць эканамічнай тэорыяй. Толькі скажу, што беларусу для таго, каб зарабіць на кіло мяса, трэба працаваць даўжэй, чым літоўцу або паляку. Гэта відавочна.

Тэзіс пра тое, што нехта там «накарміў народ», не тое каб сумніўны, - мінімум спрэчны. Праверыць гэты тэзіс таксама лёгка. Прапаную Аляксандру Рыгоравічу па восені наведацца на дачныя ўчасткі беларусаў. Можна ўзяць з сабой мегафон і расказваць: «Беларусы, мы вас накармілі». Я думаю, што гнаць чалавека з мегафонам гэтыя дачнікі будуць да самай мяжы. Таму што народ, каб неяк перазімаваць, прывык карміць сябе сам, нешта вырошчваць. Гэта зноў жа - з-за беларускай «таннасці».

**Віталь Гарбузаў**

**gazetaby.com**

# СПРАВА СУПРАЦЬ ПАЧОБУТА РАЗВАЛІЛАСЯ

**Упраўленне Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да журналіста польскага выдання «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута, абвінавачанага ў паклёпе на Лукашэнку.**

«Упраўленнем Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завершана расследаванне крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 ст.367 КК Рэспублікі Беларусь (паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейснены асобай, якую раней судзілі за паклёп) у дачыненні да Пачобута А.С." , — паведамілі агенцтву «Інтэрфакс-Захад» у групе інфармацыі і сувязі з грамадскасцю ўпраўлення СК па Гродзенскай вобласці.

«У сувязі з тым, што высновы лінгвістычных экспертыз разыходзяцца, а ў часе папярэдняга следства не здабыта аб'ектыўных дадзеных, якія пацвярджаюць здзяйсненне Пачобутам дадзенага злачынства, 15 сакавіка 2013 вынесена пастанова аб спыненні папярэдняга расследавання ў сувязі з недаказанасцю ўдзелу абвінавачанага ў здзяйсненні злачынства. Згодна з гэтай жа пастановы абраная ў дачыненні да Пачобута мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах адменена «, — удакладнілі ў СК.

«Я даведаўся пра гэта сёння, а 19.04, — расказаў НН Андрэй Пачобут. — Пра закрыццё маёй справы напісаў „Інтэрфакс“, пасля ўжо адвакат званіў у Следчы камітэт, дзе сказалі, што мне яшчэ выслалае афіцыйнае паведамленне аб гэтым, якое я яшчэ атрымаю». Закрыццё сваёй справы журналіст ацэньвае як палітычнае рашэнне, прынятае пасля таго, як яго не ўдалося прымусіць з'ехаць з краіны: «Мяне тады дэманстратыўна арыштавалі, хоць я быў толькі падазраваны, азнаёмілі з вынікамі экспертызы, з якіх адназначна вынікалі і паклёп, і зняважа, і многае іншае. Калі б пасля вызвалення пад падпіску я захацеў рушыць куды-небудзь у бок Масквы, мне б, думаю, яшчэ далі эскорт, каб ніхто не спыніў».

Эксперту, на высновах якога грунтавалася абвінавачанне (а гэта дзяржаўны ідэолаг Кізіма), апраўданы Пачобут не мае чаго сказаць: «Гэта марыянеткі, яны кажуць тое, што ім загадаюць».

Пачобут пэўны, што закрыццё яго справы будзе пададзенае беларускімі ўладамі як «станоўчы жэст у бок Захаду».

* * *

Нагадаем, карэспандэнта арыштавалі ў чэрвені 2012 года, але пасля выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Андрэя Пачобута абвінавацілі ў паклёпе на Лукашэнку. Падставамі для абвінавачвання сталі артыкулы Пачобута на сайтах charter97.org і «Беларускі партызан». Яму пагражала пазбаўленне волі на тэрмін да 5 гадоў. Пачобут быў прызнаны вязнем сумлення.

Заснавальнік і рэдактар: Станкевіч Георгій Мікалаевіч
Адрас рэдакцыі: Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.
Падпісана да друку 29.03.2013 у 16.45.
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.